*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 46(102) ◈ 18 лістапада 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)

## *Зноў вандалізм*

**У ноч з 9 на 10 лістапада была сарвана шыльда газеты ТБМ імя Ф. Скарыны «Наша слова». І гэта не першы выпадак. Аналагічная акцыя была ўтворана ў красавіку 1990 года ў час рэферэндуму аб захаванні Савецкага Саюза. Шыльду і па сённяшні дзень не знайшлі, хоць старшыня КДБ паабяцаў, што возьме гэтую справу пад свой кантроль.**

## ПОСТУП ТЫДНЯ

***СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ АДКАЗАЎ НА ПЫТАННІ ЧЫТАЧОЎ «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ». НА ПЫТАННЕ АБ ДВУХМОЎІ ЁН СКАЗАЎ: «...За крыкамі аб двухмоўі найчасцей, мне здаецца, стаіць звычайная лянота і нядольнасць нешта вывучыць. І нагнятаецца атмасфера, дарэчы, у значнай ступені высілкамі тых, што лічаць сябе святымі, чыстымі ветэранамі. Я б хацеў гэта падкрэсліць. Многія ж з іх — прадстаўнікі іншай нацыянальнасці, іншай краіны. Яны не маюць маральнага права змагацца з мовай той краіны, якая іх абагрэла і ўтрымлівае.***

***...Мы больш за ўсіх панеслі страты. Давайце ж улічым пры рэферэндуме, да якога хто-ніхто заклікае, галасы тых, каго тут забілі за мову. І не толькі фашысты, але і Саветы, рэпрэсійныя структуры НКУС. Давайце ўлічым усе іх галасы за беларускасць!»***

**14 ЛІСТАПАДА СПОЎНІЛАСЯ 180 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПАЎЛЮКА БАГРЫМА. Рэспубліканскае свята паэзіі адбылося на яго радзіме ў вёсцы Крашын Баранавіцкага раёна.**

***ПРАЙШОЎ МЕСЯЦ РАБОТЫ ДЗЕСЯТАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ. За гэты час разгледжаны і прыняты шэраг важных законапраектаў. На гэтым тыдні ў парламента вакацыі.***

**УСТАЛЯВАНЫ ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ ПАМІЖ ДЗЯРЖАВАМІ ВАТЫКАН І БЕЛАРУСЬ.**

***АДБЫЎСЯ ЎСТАНОЎЧЫ СХОД ХРЫСЦІЯНСКАЙ ЗЛУЧНАСЦІ «КУРАПАТЫ». Адна з галоўных мэт злучнасці — догляд месцаў пахавання ахвяраў рэпрэсій.***

**СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ ПРЫНЯЎ У ДОМЕ ЎРАДА НАДЗВЫЧАЙНАГА І ПАЎНАМОЦНАГА ПАСЛА РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ ПАНІ ЭЛЬЖБЕТУ СМУЛЭК ПА ЯЕ ПРОСЬБЕ. Былі абмеркаваны пытанні, якія тычацца будучага афіцыйнага візіту ў нашу краіну прэм'ер-міністра Польшчы пані Ханны Сухоцкай.**

ЯКІМ БЫЦЬ ПРАВАПІСУ? Стар. 2

Цяжкі шлях да праўды Стар. 3

Старонкі правінцыйнага рамана Стар. 4

### З канферэнцыі ТБМ

# СПЫНІЦЬ РУСІФІКАЦЫЮ!

***Менавіта такое патрабаванне часта гучала на канферэнцыі Менскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны, якая працавала 24 кастрычніка ў Палацы культуры і тэхнікі МАЗа. Сярод удзельнікаў (а іх зарэгістравалася 251 чалавек) — настаўнікі роднай мовы і літаратуры, выкладчыкі ВНУ, вядомыя дзеячы навукі і нацыянальнай культуры, супрацоўнікі выдавецтваў, музеяў, бібліятэк, беларускіх перыядычных выданняў, прадстаўнікі дэмакратычных партый і грамадскіх рухаў, дэпутаты і кіраўнікі розных узроўняў, вайскоўцы, каталіцкія святары, актывісты ТБМ з прадпрыемстваў і ўстаноў нашай сталіцы.***

Ужо з першых акордаў гэтай прадстаўнічай нарады зрабілася відавочным: у зале — людзі, якіх да болю хвалюе, абвострана непакоіць лёс роднай мовы, заўтрашні дзень беларускай нацыі. На першы погляд асноўнае пытанне парадку дня «Выкананне Закона аб мовах у г. Менску» як быццам не абяцала асаблівай напружанасці, бо станоўчыя прыклады пашырэння ўжытку беларускай мовы ў сталіцы рэспублікі, бясспрэчна, ёсць. Але кожны з удзельнікаў разумеў, што ў гэтай справе зроблены толькі першыя крокі, з уласнага вопыту ведаў, што найважнейшыя палажэнні і сам дух Закона аб мовах у Менску шмат дзе ажыццяўляецца толькі фармальна ці нават зусім ігнаруецца. Больш таго, дэмакратычную грамадскасць не можа не насцярожваць шалёная прапагандысцкая кампанія, якая па розных лініях апошнім часам разгарнулася супраць усяго сапраўды беларускага: у прэсе адкрыта шальмуюць адраджэнцаў-падзвіжнікаў, усіх, у каго сэрца баліць за родную Бацькаўшчыну, абвінавачваюць у ваяўнічым нацыяналізме, нашай мове па-ранейшаму перакрыта дарога ў праваслаўныя храмы, у Вярхоўным Савеце чуваць галасы ў падтрымку заканадаўчага ўвядзення дзяржаўнага двухмоўя, што рэальна пагражае роднаму слову неўзабаве зрабіцца сучаснай лацінай, стаць, інакш кажучы, мёртвай музейнай экзотыкай.

У дакладзе старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны прафесар Мікола Савіцкі адзначыў: «Мы сабраліся ў радасны і трывожны час. Радасны таму, што... набірае сілу і моц незваротны працэс нашага нацыянальнага Адраджэння, закладзены падмурак дзяржаўнасці, незалежнасці нашай роднай Бацькаўшчыны. Трывожны — таму, што абудзіліся імперскія і калабарацыяніцкія сілы, якія... адкрыта ставяць свае рэакцыйныя мэты: спыніць, задушыць нацыянальнае Адраджэнне беларусаў». Спадар Савіцкі таксама падкрэсліў, што прапанова часткі дэпутатаў Вярхоўнага Савета рэспублікі наконт мэтазгоднасці дзяржаўнага двухмоўя па сваёй сутнасці з'яўляецца амаральнай, бо мова — душа народа, наш здабытак ад Адама і Евы.

Зразумела, што ў такой сітуацыі было б памылкай гаварыць толькі аб некаторых поспехах і дасягненнях у дзейнасці гарадской арганізацыі ТБМ. Таму асноўную ўвагу прысутных прамоўца засяродзіў на нявырашаных праблемах: на няпростым, нялёгкім вяртанні роднай мовы ў школы, тэхнікумы, вучылішчы і ВНУ, у паўсядзённае жыццё нашай сталіцы ўвогуле. Ён з горыччу канстатаваў, што дагэтуль у горадзе «працэс беларускамоўнага навучання і выхавання знаходзіцца пад жалезным рускамоўным панцырам... Аснову чужароднага панцыра... на сённяшні дзень утвараюць рускамоўныя дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі... Мы не маем у поўным аб'ёме ні нацыянальнага тэлебачання, ні радыё, ні газет. Пакуль не зменім гэтую ненармальнасць, спадзяванні на Адраджэнне застаюцца туманнымі». Адзінае выйсце з гэтага тупіка — рашучае спыненне русіфікацыі.

На думку прамоўцы, важкай прычынай непаслядоўнага і няпоўнага выканання Закона аб мовах з'яўляецца і тое, што наша інтэлігенцыя атрымала адукацыю і выхаванне, скіраваныя супраць фарміравання нацыянальнай свядомасці. Таму ў цэлым яна яшчэ застаецца пасіўнай назіральніцай адраджэнскіх працэсаў ці нават сустракае іх у штыкі. Апошняе асабліва вызначаецца сярод прафесараў і дацэнтаў большасці менскіх ВНУ, у асяроддзі кіраўніцтва галіновых інстытутаў АН Рэспублікі Беларусь. Па-ранейшаму мала спрыяюць шырокаму вяртанню роднай мовы ў жыццё беларускія літаратары, дзеячы тэатра і кіно.

Прыкметную цікавасць выклікала выступленне генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднання «Менскі аўтамабільны завод» Міхася Лаўрыновіча, якое пачалося словамі: «Ход Адраджэння ў значнай ступені залежыць ад сумлення саміх кіраўнікоў». Нельга з гэтым не пагадзіцца... Далей генеральны дырэктар буйнейшага ў рэспубліцы прамысловага прадпрыемства падрабязна праінфармаваў аб тым, што робіцца ў шматтысячным калектыве МАЗа, каб роднае слова заняло тут сваё пачэснае месца.

Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч прыняў крытыку на адрас рэспубліканскага кіраўніцтва Таварыства і рэдакцыі «Нашага слова», што прагучала з трыбуны ад некаторых прамоўцаў. Але ён катэгарычна не падтрымаў пазіцыю тых, хто выступаў з патрабаваннямі «пасіліць экстрэмізм» у моўным пытанні, бо, паводле статутных палажэнняў, ТБМ — арганізацыя перш за ўсё культурна-асветніцкая. Спадар Гілевіч зазначыў, што ў сучасных умовах само жыццё мудра падказвае: усім нам зараз трэба змагацца не толькі за родную мову, але і ўсебакова падтрымліваць літаральна ўсё, што працуе на беларускасць, на ўсталяванне беларускага ладу жыцця, на пашырэнне беларускасці ва ўсіх сферах асветы і духоўнай культуры...

Старшыня Менгарвыканкама Аляксандр Герасіменка запэўніў прысутных, што з часам афармленне сталічных вуліц і плошчаў будзе выканана на роднай мове, намечаны таксама захады, каб у гарадской тапаніміцы быў услаўлены гістарычны шлях Беларусі. Гэты працэс ужо распачаты, але ён патрабуе значных грашовых і вытворчых выдаткаў, таму вынікаў чакаць адразу не выпадае. Ён жа расказаў аб тым, як супрацоўнікі гарвыканкама паступова прывыкаюць да беларускамоўнага справаводства.

Па-мітынговаму востра выступіў сакратар управы БНФ Вінцук Вячорка, які неаднаразова падкрэсліў, што пытанне мовы ў нашых варунках — пытанне палітычнае, што ТБМ павінна мець сваё палітычнае аблічча, бо любы іншы шлях для арганізацыі з'яўляецца тупіковым.

...Абыякавых у зале не было. А з трыбуны толькі ў першай частцы канферэнцыі ўсхвалявана дзялілася думкамі адзінаццаць чалавек. У выніку атрымалася зацікаўленая, шчырая і, спадзяёмся, карысная гутарка, скіраваная на тое, каб наблізіць той час, калі наша родная мова перастане быць госцяй у беларускай хаце.

Канферэнцыя прыняла зварот да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, іншыя дакументы, асноўны змест якіх патрабуе: «Спыніць русіфікацыю!»

**Мар'ян ВІЖ.**

*З рэдакцыйнай пошты*

## Талерантнасць ці рахманасць?

Можа, гэта і дробязі, але асабіста мяне непрыемна закранулі некаторыя радкі з чарговай інфармацыйнай падборкі «Весткі з Шацілавічаў». Аўтар яе паведаміў, што нехта заліў фарбаю расійскамоўныя шыльды крамы, а таксама рэкламныя плакаты Дома культуры. Мясцовая паэтка зневажальна ахарактарызавала гэта як «дзікунства». Крыўдна ўдвая і наогул даволі дзіўна, што гэта надрукавала «Наша слова» — абаронца роднай мовы і прапагандыст нацыянальнага Адраджэння.

То няўжо тая ж паэтка за сваё жыццё не наглядзелася сапраўднага дзікунства ў адносінах да беларускай мовы, знявагі і прыніжэння нацыянальнай культуры? Няўжо некаму і зараз здаецца нармальным, што ў нашай незалежнай краіне кляймяць «оголтелым националистом» за ўжыванне беларускай мовы!

Не, шаноўныя, трэба ўсё ж мець уласны гонар і не рабіць жахлівыя вочы перад праявамі невыноснай нацыянальнай крыўды і адчаю. Безумоўна, бальшавіцкімі метадамі карыстацца нельга. Але, панове, мусіць, прычыну падобных учынкаў варта пашукаць у «славутай» нашай талерантнасці, якую бывае цяжка адрозніць ад рахманасці. Таму, мяркую, лепей на старонках «Нашага слова» больш звяртаць увагі на тое цемрашальства, што пануе паўсюдна, пачынаючы з шыльдаў гандлёвых «кропак» і да афіцыйных установ. Колькі праяў дзікунства ў адносінах да беларусаў як народа і іх культуры нават у самой сталіцы нашай краіны, вы ж і самі ведаеце.

**Алесь ГУСЕЎ,**
**студэнт.**

***АД РЭДАКЦЫІ.** Шаноўны спадар Алесь, усё так — і адносна знявагі беларусаў у іх жа краіне, і дзівоснай «талерантнасці» абывацеля, ад якой іншым разам становіцца нё па сабе. Тым не менш не варта адводзіць убок позірк, калі бачыш праявы таго, што браў на ўзбраенне бальшавізм. Можам зразумець экстрэмісцкія ўчынкі ад пачуцця знявагі і адчаю, але зрабіць выгляд, што не заўважылі, не перасцерагчы ад падобнага — гэта грэх перад уласным народам. Наш шлях — гэта культура, цывілізаванасць і боскасць.*

*Да рэспубліканскай канферэнцыі «Праблемы беларускага правапісу»*

# ЯКІМ БЫЦЬ ПРАВАПІСУ?

Камісія па ўдасканаленні правапісу ТБМ прапануе ўвазе чытачоў некаторыя вынікі апытання па праблемах беларускага правапісу (анкета была апублікавана ў 6-ым нумары «Нашага слова» за гэты год).

Усяго адгукнулася каля 3% чытачоў «Нашага слова». Атрыманыя вынікі адлюстроўваюць пазіцыю найбольш актыўных мовакарыстальнікаў і, відаць, не з'яўляюцца рэпрэзентатыўнымі для ўсёй сукупнасці носьбітаў беларускай літаратурнай мовы. Можна меркаваць, што найбольш кансерватыўная ў правапісных адносінах частка беларускамоўнага насельніцтва займае пасіўнае становішча ў дачыненні да пастаўленай праблемы і не мае намеру і стымулаў сцвердзіць сваю пазіцыю праз анкетаванне. Разам з тым, выяўленыя ў адказах тэндэнцыі варта мець на ўвазе ў далейшай працы па ўдасканаленні нашага правапісу.

## АГУЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА АПРАЦАВАНЫХ АНКЕТ*

### АГУЛЬНАЯ КОЛЬКАСЦЬ АНКЕТ: 229

**I. ЦІ ЗАДАВАЛЬНЯЕ ВАС СУЧАСНЫ СТАН БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ?**

1. так — 24 (10,5%)
2. не — 201 (87,8%)
3. не ведаю — 2 (0,9%)

**II. НА ВАШУ ДУМКУ, У АСНОВЕ БЕЛАРУСКАЙ АРФАГРАФІІ ПАВІННА БЫЦЬ ПРАВАПІСНАЯ СІСТЭМА:**

4. якая выкарыстоўваецца, пачынаючы з 1933 года — 16 (7,0%)
5. якая ўжывалася да 1933 года — 86 (37,6%)
6. якая спалучала б рысы 4 і 5 — 105 (45,9%)
7. якая адрознівалася б ад 4 і 5 — 14 (6,1%)
8. не ведаю — 7 (3,1%)

### ВЫ ЛІЧЫЦЕ НЕАБХОДНЫМ (ПРАВІЛЬНЫМ) ПІСАЦЬ:

| | | |
|---|---|---|
| III. 9. здзекі, у гняздзе, гарэзлівы і г. д. | — | 37 (16,2%) |
| 10. зьдзекі, у гнязьдзе, гарэзьлівы і г. д. | — | 189 (82,5%) |
| 15. палоззе, вяселле, здарэнне | — | 49 (21,4%) |
| 16. палозьзе, вясельле, здарэньне | — | 158 (69,0%) |
| 17. з зямлі, без яго, цераз цябе | — | 75 (32,8%) |
| 18. зь зямлі, безь яго, церазь цябе | — | 144 (62,9%) |
| IV. 19. без бульбы, без поля, не буду | — | 36 (15,7%) |
| 20. бяз бульбы, бяз поля, ня буду | — | 187 (81,7%) |
| 31. без рукі, не лічы, не шукай | — | 107 (46,7%) |
| 32. бяз рукі, ня лічы, ня шукай | — | 115 (50,2%) |
| V. 33. суражскі, чэшскі, добрушскі | — | 116 (50,7%) |
| 34. сураскі, чэскі, добрускі | — | 103 (45,0%) |
| 35. гарадскі, грамадскі, параходства | — | 51 (22,3%) |
| 36. гарадзкі, грамадзкі, параходзтва | — | 105 (45,9%) |
| 37. гарацкі, грамацкі, парахоцтва | — | 71 (31,0%) |
| 40. мазамбікскі, таджыкскі, каракалпакскі | — | 53 (23,1%) |
| 41. мазамбіцкі, таджыцкі, каракалпацкі | — | 173 (75,5%) |
| 44. каўказскі, андалузскі, французскі | — | 71 (31,0%) |
| 45. каўказкі, андалузкі, французкі | — | 77 (33,6%) |
| 46. каўкаскі, андалускі, францускі | — | 79 (34,5%) |
| 47. імчышся, купаешся | — | 81 (35,4%) |
| 48. імчыссся, купаесся | — | 29 (12,7%) |
| 49. імчысься, купаесься | — | 117 (51,1%) |
| 52. возчык, паказчык, перапісчык | — | 111 (48,5%) |
| 53. вошчык, пакашчык, перапішчык | — | 113 (49,3%) |
| 57. перабежчык, нябожчык | — | 110 (48,0%) |
| 58. перабешчык, нябошчык | — | 111 (48,5%) |
| 59. дакладчык, аб'ездчык, лётчык | — | 114 (49,8%) |
| 60. даклаччык, аб'еччык, лёччык | — | 104 (45,4%) |

### VII. ЗВЕСТКІ АБ РЭСПАНДЭНТАХ. УЗРОСТ:

| | | |
|---|---|---|
| 67. менш за 20 г. | — | 28 (12,2%) |
| 68. ад 20 да 35 г. | — | 79 (34,5%) |
| 69. ад 35 да 50 г. | — | 65 (28,4%) |
| 70. больш за 50 г. | — | 57 (24,9%) |

### АДУКАЦЫЯ:

| | | |
|---|---|---|
| 71. няпоўная сярэдняя | — | 17 (7,4%) |
| 72. сярэдняя | — | 55 (24,0%) |
| 73. вышэйшая | — | 157 (68,6%) |

### ДЗЕ ЖЫВУЦЬ:

| | | |
|---|---|---|
| 74. у горадзе Рэспублікі Беларусь | — | 188 (82,1%) |
| 75. у вёсцы Рэспублікі Беларусь | — | 29 (12,7%) |
| 76. у адной з рэспублік былога СССР | — | 9 ( 3,9%) |
| 77. у рэспубліцы Польшча | — | 0 ( 0,0%) |
| 78. у іншай краіне | — | 3 ( 1,3%) |

### РОД ЗАНЯТКАЎ:

| | | |
|---|---|---|
| 79. настаўнік (выкладчык) беларускай мовы | — | 18 ( 7,9%) |
| 80. журналіст; супрацоўнік выдавецтва | — | 7 ( 3,1%) |
| 81. пісьменнік | — | 4 ( 1,7%) |
| 82. навуковец | — | 29 (12,7%) |
| 83. школьнік | — | 14 ( 6,1%) |
| 84. іншае | — | 159 (69,4%) |

### СТУПЕНЬ ВАЛОДАННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ:

| | | |
|---|---|---|
| 85. дасканала | — | 53 (23,1%) |
| 86. добра | — | 154 (67,2%) |
| 87. слаба | — | 22 ( 9,6%) |

## *Звесткі аб рэспандэнтах (уключна з польскімі), якія абралі варыянт 9*

### АГУЛЬНАЯ КОЛЬКАСЦЬ АНКЕТ: 44

### УЗРОСТ:

| | | |
|---|---|---|
| менш за 20 г. | — | 2 (4,5%) |
| ад 20 да 35 г. | — | 10 (22,7%) |
| ад 35 да 50 г. | — | 13 (29,5%) |
| больш за 50 г. | — | 19 (43,2%) |

### АДУКАЦЫЯ:

| | | |
|---|---|---|
| няпоўная сярэдняя | — | 2 (4,5%) |
| сярэдняя | — | 6 (13,6%) |
| вышэйшая | — | 36 (81,8%) |

### ДЗЕ ЖЫВУЦЬ:

| | | |
|---|---|---|
| у горадзе Рэспублікі Беларусь | — | 25 (56,8%) |
| у вёсцы Рэспублікі Беларусь | — | 9 (20,5%) |
| у адной з рэспублік былога СССР | — | 3 ( 6,8%) |
| у Рэспубліцы Польшча | — | 7 (15,9%) |
| у іншай краіне | — | 0 ( 0,0%) |

### РОД ЗАНЯТКАЎ:

| | | |
|---|---|---|
| настаўнік (выкладчык) беларускай мовы | — | 7 (15,9%) |
| журналіст; супрацоўнік выдавецтва | — | 4 ( 9,1%) |
| пісьменнік | — | 1 ( 2,3%) |
| навуковец | — | 8 (18,2%) |
| школьнік | — | 1 ( 2,3%) |
| іншае | — | 23 (52,3%) |

## *Звесткі аб рэспандэнтах (уключна з польскімі), якія абралі варыянт 10*

### АГУЛЬНАЯ КОЛЬКАСЦЬ АНКЕТ: 198

### УЗРОСТ:

| | | |
|---|---|---|
| менш за 20 г. | — | 26 (13,1%) |
| ад 20 да 35 г. | — | 73 (36,9%) |
| ад 35 да 50 г. | — | 56 (28,3%) |
| больш за 50 г. | — | 43 (21,7%) |

### АДУКАЦЫЯ:

| | | |
|---|---|---|
| няпоўная сярэдняя | — | 15 ( 7,6%) |
| сярэдняя | — | 52 (26,3%) |
| вышэйшая | — | 131 (66,2%) |

### ДЗЕ ЖЫВУЦЬ:

| | | |
|---|---|---|
| у горадзе Рэспублікі Беларусь | — | 161 (81,3%) |
| у вёсцы Рэспублікі Беларусь | — | 19 ( 9,6%) |
| у адной з рэспублік былога СССР | — | 6 ( 3,0%) |
| у Рэспубліцы Польшча | — | 9 ( 4,5%) |
| у іншай краіне | — | 3 ( 1,5%) |

### РОД ЗАНЯТКАЎ:

| | | |
|---|---|---|
| настаўнік (выкладчык) беларускай мовы | — | 13 ( 6,6%) |
| журналіст; супрацоўнік выдавецтва | — | 10 ( 5,1%) |
| пісьменнік | — | 5 ( 2,5%) |
| навуковец | — | 22 (11,1%) |
| школьнік | — | 13 ( 6,6%) |
| іншае | — | 137 (69,2%) |

** Не ўлічаны 16 анкет з Польшчы, якія былі апрацаваны асобна. Сярод польскіх рэспандэнтаў 75% складаюць выкладчыкі беларускай мовы, журналісты, пісьменнікі.*

**Анкеты апрацаваны ў Вылічальным цэнтры Акадэміі навук Беларусі на ЭВМ ЕС-1046 у кастрычніку 1992 года.**

*Уладзімір АРЛОЎ*

# СТАРОНКІ ПРАВІНЦЫЙНАГА РАМАНА

***У выдавецтве «Беларусь» падрыхтавана да друку кніга Уладзіміра Арлова «Таямніцы полацкай гісторыі». Аўтар вядзе гаворку пра малавядомыя, часам загадкавыя старонкі гісторыі Полацка, які быў калыскай нашай дзяржаўнасці, даў Беларусі яркае сузор'е выдатных імёнаў — палкаводцаў, асветнікаў, вучоных, людзей мастацтва. Падарожжа ў полацкую даўніну ахоплівае тысячу гадоў — з часоў паганства да пачатку XX стагоддзя. Прапануем фрагмент будучай кнігі, адрасаванай шырокаму чытачу.***

Жыццё горада, як і жыццё чалавека, можна ўявіць раманам — з сюжэтам, галоўнымі і другараднымі героямі, будзённымі і трагікамічнымі старонкамі. У XIX стагоддзі, пасля закрыцця Полацкай акадэміі, якая мела ўсе правы універсітэта, полацкі раман стаў правінцыйным. Перагорнем некалькі яго старонак, а пачнём з гераічнай.

Існуе думка пра адвечную санлівую пасіўнасць нашага народа. Аднак не хто-небудзь іншы, а беларусы на працягу няпоўных ста гадоў пасля захопу Беларусі Расіяй тройчы ўзнімаліся, каб вырвацца з задушлівых абдымкаў імперыі. Паміж паўстаннямі Касцюшкі і Каліноўскага крывавую разору пралёг праз нашу гісторыю і 1831 год.

У Прыдзвінні найбольш чынныя дзеянні інсургентаў разгарнуліся ў суседнім з Полацкам Дзісненскім павеце. 13 красавіка ў мястэчку Лужкі сабралася пяцьдзесят шляхціцаў. У склад абранага кіраўніцтва ўвайшлі прадстаўнікі вядомых родаў былога Полацкага ваяводства: Міхал Храпавіцкі, Антон і Язэп Корсакі, Алейзі Буйніцкі... Паўстанцкі камітэт заклікаў да зброі, і праз дзесяць дзён у Лужках стаяла тры тысячы гатовых да бою шляхціцаў і сялян. Гэты атрад узяў і колькі дзён утрымліваў Дзісну. Сілы былі, безумоўна, няроўныя, і інсургенты мусілі адступіць на Віленшчыну.

Якраз напярэдадні тых падзей улады зачынілі ў Полацку піярскі калегіум. Падбадзёраныя першымі поспехамі змагароў з царызмам, манахі марудзілі складаць вопісы маёмасці і адмаўляліся прызначаць таргі. У паўстанне пайшло, па няпоўных звестках, каля трох сотняў палачан.

У траўні 1831 года следства па справе паўстанцаў учыніў у мястэчку Глыбокае царскі вяльможа Міхаіл Мураўёў. Улады канфіскоўвалі маёнткі, пазбаўлялі паўстанцаў дваранскіх правоў (усяго на Беларусі адабралі шляхецтва ў дзесяці тысяч чалавек), зачынялі навучальныя ўстановы. У 1832-ім адначасова з Віленскім універсітэтам спыніла існаванне знакамітая піярская школа ў Лужках, заснаваная за сто гадоў да гэтага полацкім кашталянам Валяр'янам Жабам.

Мацнеў рэлігійны ўціск.

Падтрымка паўстання беларускім уніяцкім духавенствам, у тым ліку полацкімі манахамі-базыльянамі, паскорыла знішчэнне Уніі. Базыльян павыганялі з келляў. З кляштара знялі і адправілі ў расійскую сталіцу на будову Ісакіеўскага сабора медзяны дах. Потым колішні манаскі прытулак «зусім выпадкова» загарэўся.

Адначасна з двума полацкімі базыльянскімі кляштарамі ўлады зачынілі яшчэ сорак. Імператар Мікалай I з гэтае нагоды заўважыў: «Слава Богу, вот и еще несколько неприятельских крепостей уничтожили».

У горадзе зачынілі францысканскія (мужчынскі і жаночы) і бернардзінскі мужчынскі кляштары. Ад першага сёння ацалеў двухпавярховы дом, у якім цяпер аддзел міліцыі. Заснаваны ў 1648 годзе францысканскі сабор бальшавікі ў трыццатыя гады знеслі. Бернардзінскі кляштар, адчынены яшчэ ў дзіцячыя гады Францішка Скарыны, а ў 1758-ым упрыгожаны барочным саборам, напаткаў жудасны лёс.

Да Другой сусветнай вайны і адразу пасля яе там знаходзілася турма НКУС. Туды звозілі «бандытаў» і «нацыяналістаў» з заходніх раёнаў вобласці. Там катавалі пастаўскую дзяўчынку Алесю Умпіровіч з «Саюза беларускіх патрыётаў», вінаватую ў тым, што намалявала «Пагоню» ды хацела вучыцца па-беларуску. Але каб засудзіць на 25 гадоў, гэтага было ўсё-такі замала, і следчы з данамогай гіпнозу вырваў у Алесі прызнанне, што яна — амерыканска-англійская шпіёнка!

Полоцкъ. Верхній Замокъ. Николаевскій Соборъ. Богоявленскій Монастырь.



«Ворага народа» — селяніна з Бельчыцаў, якому перад гэтым тыдзень не давалі есці, следчы Сімакоўскі біў па твары свежым хлебным боханам. Беларускі пісьменнік Мікола Хведаровіч (былы вязень ГУЛАГа) успамінаў, што чэкісты з полацкай перасылкі карысталіся наступным метадам «камуністычнага выхавання»: ахвяру ставілі ў яму, якую запаўнялі разведзеным чалавечым калам, чакаючы, пакуль жыжка дойдзе да ніжняй губы, каб можна было «выхапіць» прызнанне. Гэта называлася «зрабіць шакаладным».

Калі ў старых мурах гаспадарылі ўжо медыкі-псіхіятры, ім спатрэбілася цэгла. Бабінец бернардзінскага храма разабралі, а скляпы пад імі разбурылі. Косці продкаў з іх растрэслі...

У мінулым стагоддзі Полацк мусілі пакінуць і манахі-дамініканцы. Іх мураваны касцёл, пабудаваны на цэнтральным пляцы замест спаленага расійскай артылерыяй у 1812 г. драўлянага, доўга заставаўся ў горадзе адзіным каталіцкім храмам. Савецкая ўлада доўга цярпець гэта, зразумела, не магла, таму павесіла на дзвярах пудовы замок. Старыя палачане памятаюць, як на вуліцы валяліся трубы ад зламаных арганаў. Дамініканскі сабор загінуў у гады фашысцоўскай акупацыі. Гэта адзіны, дарэчы, каштоўны помнік полацкай архітэктуры, знішчаны немцамі, на якіх спрабавалі спісаць усе свае злачынствы бальшавіцкія вандалы.

Расійскія ўлады планамерна вытоптвалі на нашай зямлі ўсё самабытнае, беларускае. Адразу пасля паўстання 1831 года ў Віцебскай і Магілёўскай губернях было скасавана дзеянне Статута Вялікага княства Літоўскага. Цар зацвердзіў пастанову пра перасяленне на Беларусь «выходцев из внутренних губерний, которые принесут с собою в сей край, чуждающийся России, наш язык, обычаи, приверженность русских к престолу». На ўсе дзяржаўныя пасады прызначалі толькі расійскіх чыноўнікаў. Беларусь і Літва рэзалюцыяй Мікалая I у 1840 годзе ператварыліся ў «Северо-Западный край», які каланізатары хацелі зрабіць зацішным, узорна-паказальным кутком імперыі. (Грунтуючыся на зробленым папярэднікамі, гэтую мару не без поспеху ажыццяўлялі потым бальшавікі.)



Велізарныя заслугі перад расійскім тронам належаць тут графу Міхаілу Мураўёву. Яго імя ўсплывае не толькі ў спалучэнні з мянушкаю Вешальнік. Галоўны начальнік «Северо-Западного края» быў яшчэ і «будаўніком»: руйнуючы наша дойлідства, панастаўляў на Полаччыне і па ўсёй Беларусі праваслаўных псеўдавізантыйскіх храмаў, якія народ празваў «мураўёўкамі». Звяртаючыся да беларускага дваранства, ён казаў: «Забудьте наивные мечтания, занимавшие вас доселе, господа, и помните, что если вы не станете здесь по своим мыслям и чувствам русскими, преданными Отечеству, то вы будете здесь иностранцами и должны тогда покинуть этот край».

Іншаземцамі зрабіліся тысячы сумленных і таленавітых сыноў Беларусі. Паўстанец 1831 года паэт прыдзвінскага краю Аляксандр Рыпінскі выдаваў беларускія і польскія творы, жывучы ў Парыжы і ў Лондане. Вандруючы па Аўстра-Венгрыі, Францыі і Егіпце пісаў вершы наш суайчыннік «граф Суліма з Белай Русі» — Вайніслаў Савіч-Заблоцкі, сын буйнога землеўладальніка з Дзісеншчыны, які задоўга да афіцыйнага скасавання прыгону даў сваім сялянам волю, за што быў абвешчаны вар'ятам і пазбаўлены маёмасці. Пяро «графа Сулімы» вывела ўсхваляванае прызнанне: «Дзвіна, Дунай маёй Айчыны, самая дарагая рэчка на свеце, табе я абавязаны рытмам маіх песняў!» А колькі беларусаў марылі вымыць твар дзвінскай вадою, снілі абрысы полацкіх сабораў у начлежках і багадзельнях Старога і Новага свету?..

Трэба дадаць, што ва ўсе часы бацыламі вялікадзяржаўнага шавінізму былі заражаныя і расійскія дэмакраты. Някрасаў прысвяціў Вешальніку оду, дзе ўслаўляў яго такімі словамі:

Бокал заздравный поднимая,
Еще раз выпить нам пора.
Здоровье миротворца края!
Так много ж лет ему. Ура!

У маладосці граф Міхаіл Мураўёў належаў да дзекабрыстаў, аднак парваў з імі. Ну, а як глядзелі на Беларусь першыя расійскія рэвалюцыянеры, што не раз падарожнічалі па ёй, праветрывалі тут «гвардзейскі душок» на пятнаццацімесячных манеўрах пасля вядомага паўстання Сямёнаўскага палка?

*(Працяг будзе).*

## Беларускае замежжа

## «ГОЛАС ЧАСУ»: лістапад — снежань

**Часопіс адкрываецца нарысам Антона Мірановіча «Культы святых на Беларусі», дзе аўтар дае падрабязнае гісторыка-геаграфічнае апісанне развіцця культу святых у Праваслаўнай царкве на Беларусі. Але толькі тых, якія сваё жыццё і дзейнасць звязалі з беларускім народам. Пра гурткі моладзі, што існавалі ў Свіслачы ў мінулым стагоддзі, цікава распавядае ў публікацыі «Тайныя свіслацкія гурткі «навуковы» і «маральны». 1819—1820 гады» С. В. Таляронак.**

**Наталля Р. Сцяжко правадзіць своеасаблівы экскурс па залах музея Алеся Белакоза, які ён стварыў разам са сваімі вучнямі ў вёсцы Гудзевічы, што на Гродзеншчыне.**

**«Мае горкія ўспаміны» — артыкул пад такой назвай яшчэ раз вяртае нас да тэмы татальнага сталінскага тэрору, здзеку, ганьбы і бесчалавечнасці.**

**Пра жыццё народа Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд чытачы даведаюцца з матэрыялу «Становішча жыхароў Заходняй Беларусі ў часе польскай акупацыі».**

**«З гонарам кажу, што я беларус...» — інтэрв'ю Сяргея Чыгрына з вядомым беларускім паэтам Анатолем Іверсам.**

**У нумары змешчана заканчэнне нарыса Юрыя Весялкоўскага «Першая беларуская арганізацыя ў Вялікабрытаніі і яе духоўныя і палітычныя апекуны».**

**«Кветка малодой дзяржавы» — невялікая справаздача Уладзіміра Пучынскага пра святкаванне Дня незалежнасці Беларусі ў Менску.**

**У нумары таксама змешчаны невялікі допіс пра ўдзел беларускіх спартсменаў у Алімпіядзе-92 у Барселоне, «Весткі з Віцебшчыны», урыўкі з чытацкіх лістоў, дасланых рэдакцыі «Голаса часу».**

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# Вучымся!

# ПАЧАТКІ

Вочна-завочная школа

Вядзе Валянціна Карлаўна РАМАНЦЭВІЧ

## ЗАНЯТКІ VIII

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце, звярніце ўвагу на вымаўленне прыназоўніка *з:*

*з намі* [з] *з кнігі* [с]
*з возера* [з] *з пяску* [с']
*з рыбы* [з] *з шышкі* [ш]
*з лесу* [з'] *з чужымі* [ш]
*з ветру* [з'] *з жыта* [ж]
*з неба* [з'] *з жыцця* [ж]

2. Прачытайце тэксты, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў. Асаблівую ўвагу звярніце на вылучаныя словы.

*Тарас ХАДКЕВІЧ*

### Вясна

Як і штогод, вясна прыйшла ў магутным шуме паводак, у серабрыстым звоне ручаёў, у *несціханым спеве* жаваранкаў, у шаўкавістым *шапаценні* першай зеляніны на пожнях. Сонечнымі ключамі яна адамкнула *дзверы* цёплым вятрам з поўдня, і яны *панеслі* па прасторах неўгамонную яе сілу, перад якой скарылася зіма, *паспешліва* адступіла з лютымі маразамі, сіверам, завеямі ў паўночныя далі.

...Надвор'е ўсталявалася цёплае, парнае.

*Янка КУПАЛА*

### Летняя раса

Як брыльянты, *рассявае*
Ночка летняя расіцу,
Туманамі спавівае
Луг зялёны над крыніцай.
А як раніца настане,
Бляскі сонца загуляюць,—
Рос прыходзіць *адцвітанне*,
Туманы у *рэчцы* таюць.
Як брыльянты, гінуць росы
На зялёнай сенажаці,
Сонца косы, нашы косы
Не даюць паўдня ім знаці.

*І. НАВУМЕНКА*

### Пачатак восені

Пачыналася восень. Яшчэ горача *свяціла* сонца, зусім па-летняму дрыжала сінявятая смуга над пыльнай дарогай, у кустах крушыны *свісталі* вясёлыя драозды. Буяла *яшчэ* на лугавінах зялёная атава, у палісадніках ля вясковых хат наперагонкі хваліліся сваёй *прыгажосцю* жоўтыя вяргіні і астры. Але ўсеўладная восень неадступна цікавала за гэтымі апошнімі праявамі хмельнага летняга *жыцця*. Яна ўжо заслала суцэльным залацістым абрусам палі збажыны, *злёгку* пазалаціла шаты разгалістых прыдарожных бяроз, а паветра напаіла той *празрыстасцю і чысцінёй*, якая бывае толькі цёплай лагоднай *восенню*.

*М. ЛЫНЬКОЎ*

### Зімой

Хараша ў полі зімою...

Серабрыцца *снег*, мігацяць *незлічоныя* мільёны брыльянцістых іголак, вецер-кусака *шчыпле за шчокі*, нос. Забіраецца за каўнер, невідзімкаю прабіраецца пад кажух са сваёю халоднай *пяшчотай*.

...Надыходзіць вечар, сінеюць *снегавыя* гурбы, ад бледнага месяца цягнуцца празрыстыя промні і не зязюць, а тлеюць над лесам і полем. Сінія цені плывуць за кустамі, кладуцца ў баразёнкі, у *снегавых* сумёты. А зоры, тыя нібы вылецець хочуць са сваіх гнёздаў, да таго зыркія, бліскучыя яны ў марозным паветры.

І салодкі сум закрадваецца ў сэрцы, ціхі сум, непазнаны.

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Падрыхтуйце паведамленні паводле наступных сітуацый.

* Вы вясной у дарозе і назіраеце прыроду.
* У спякотны летні дзень. Вы ў полі (на лузе, ля рацэ).
* Вас застала навальніца ў дарозе.
* Вы ў асеннім парку (лесе).
* Вашы разважанні пра раннюю зіму.
* Марознай раніцай Вы на аўтобусным прыпынку.

2. Адкажыце на пытанні паводле тэксту У. Коваля «Навошта ў хаце парог?»

— Чаму парог у хаце лічыўся месцам незвычайным?
— З якімі вераваннямі звязана рытуальнае сядзенне людзей перад далёкай дарогай?
— Чаму не вітаюцца праз парог?
— Як выкарыстоўваўся парог для лячэння хворых дзяцей?
— Чаму ў час вяселля малады нёс у сваю хату жонку на руках?
— Калі да «парогавай магіі» звярталіся дзяўчаты?
— Якія яшчэ прыкметы, звязаныя з парогам, Вы ведаеце?

### ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ

ПРАЧЫТАЙЦЕ ТЭКСТ І ПЕРАКАЖЫЦЕ.

### Купалле

Купалле — гэта свята сонца, разросту жыцця, сіл прыроды, якая дасягае ў гэтым часе свайго найвышэйшага развіцця, гэта самае насычанае абрадамі старажытнае свята. Адзначаецца яно ў ноч з 23 на 24 чэрвеня (паводле старога стылю). У купальскіх абрадах вялікае месца займае сімволіка дзвюх стыхій — агню і вады.

Купальскае вогнішча — у цэнтры ўсяго свята. Яшчэ ў мінулым стагоддзі яго запальвалі старадаўнім спосабам, тручы адзін аб другі брусы дрэва. У купальскім агні бачылі ачышчальны і ахоўны пачатак. Вакол купальскага агню моладзь вадзіла карагод.

Раней сцвярджалі, што купальскія агні маюць сілу даваць ураджай і праганяць смерць. Скакалі праз агонь, закаханыя — парамі. І калі іх рукі не разыходзіліся, то гэта добрая прыкмета: вяселле іх у гэтым жа годзе павінна было адбыцца. Праз увесь час ля вогнішча не змаўкалі песні, жарты. Пасля моладзь ішла да рэчкі, дзяўчаты пускалі вянкі на ваду. А сталыя людзі гутарылі аб мінулым, згадвалі пра ўсялякія дзівосы.

У язычніцкія часы нашы далёкія продкі верылі, што ў гэты дзень сонца ў вобразе дзяцюка спраўляе вяселле з багіняй лета. І яны збіраліся між сёл на ўзгорках, каля вады, ладзілі там ігрышчы ды ў гэту ноч «умыкалі» сабе дзяўчат на жонак. А каб такі шлюб меў законную сілу, дапаўнялі яго ўстаноўленымі звычаямі: ачышчаліся ад грахоў, купаючыся, скачучы праз вогнішча. Людзі верылі, што ў гэту ноч зацвітае кветка папараці, якая дае чалавеку шчасце і сілу, паведамляе пра ўсе таямніцы прыроды. Здабыць кветку шчасця вельмі цяжка. У самую поўнач, калі яна павінна раскрыцца, таму, хто шукае кветку, здаюцца розныя страшыдлы. Яны імкнуцца перашкодзіць чалавеку. Надыходзіць навальніца: зіхацяць бліскавіца, грыміць гром. Каму ж удалося сарваць кветку, павінен ісці, не аглядаючыся, дамоў і не звяртаць увагі на пагрозы і спакусы ведзьмаў.

Захавалася паданне, што аднаму селяніну кветка трапіла ў абутак і ён мог бачыць тое месца, дзе захаваны скарб. Але яму трапілася ведзьма і прапанавала новыя боты. Чалавек абрадаваўся і прыняў прапанову. Але, на жаль, абуваючы боты, страціў запаветную кветку, а з ёю і ўсё шчасце.

Верылі, што ў купальскую ноч вельмі многа ўсякай нечысці, асабліва ведзьмаў. Павер'і суправаджаліся рознымі засцерагальнымі дзеяннямі. У некаторых мясцінах мужчыны ўсю ноч ахоўвалі жыта, бо калі ведзьма сарве некалькі каласкоў, жыта перастане радзіць. Асцерагаліся, што ведзьмы могуць адабраць у кароў малако, таму гаспадары абсыпалі хлеў макам, на парог клалі крапіву-жыгучку, а на вароты хлявоў вешалі калючы дзядоўнік. Коней не выводзілі на начлег.

Лічылася, што зёлкі, сабраныя ў ноч на Купалле, маюць цудадзейную сілу. Гэта вераванне грунтуецца на шматвяковым назіранні за прыродай, за лекавымі ўласцівасцямі раслін. Яно і на самай справе так. Купалле — зеніт лета, пара, калі сонца дасягае свайго апагею, было і часам даспявання траў. Натуральна, што сабраныя гэтай парою, зёлкі мелі пэўную лекавую моц.

Людзі заўважылі, што на Купалле рэчкі і азёры свецяцца прывідным святлом. Сапраўды, месяц у гэтую пару моцна адбівае сонечныя промні, і бязвоблачнай наччу паверхня вадаёмаў можа адсвечвацца блакітным святлом.

Прайшло з таго часу шмат стагоддзяў. На змену язычніцтву прыйшло хрысціянства. Але купальскае свята жыве. Дык няхай Купалле служыць нам вечнай памяткай, што сонейка заўсёды перасільвае цемру ночы, і ў гэтым мы будзем чэрпаць веру, што ўсё светлае, добрае, справядлівае звяе адвечнае зло і дасць змогу жыць і развівацца на волі ўсяму жывому...

## Новая тэма: Правапіс е, ё — я

1. Прачытайце словы парамі, пастаўце ў словах націскі. Звярніце ўвагу на напісанне націскных і пераднаціскных складоў.

| | |
|---|---|
| *Вербы — вярба* | *Вёслы — вясло* |
| *След — сляды* | *Сёстры — сястра* |
| *Лечыць — лячыць* | *Вёў — вяду* |
| *Несці — нясуць* | *Нёс — нясу* |

Літара *ё* пішацца толькі пад націскам: *вясёлка, палёт, цёплы.*

У першым складзе перад націскам замест *е, ё* пішацца *я: мёд — мядовы, лес — лясы, бегчы — бягом.* Выключэнне складаюць словы *дзевяты, дзесяты, семнаццаць, васемнаццаць.*

Ва ўсіх іншых ненаціскных складах асновы пішацца *е: песняры, возера, вецер, цецерукі, цесляры.*

Карэннае *я* пішацца незалежна ад месца націску: *яр — яравы — яравізацыя, свята — святкаваць.*

Словы *не* і *без* заўсёды пішуцца з літарай *е*, але перад націскным складам гук [э] чытаецца як [а]:

| *ПІШАМ* | *ЧЫТАЕМ* |
|---|---|
| *не хоча* | *ня хоча* |
| *не просіць* | *ня просіць* |
| *без радасці* | *бяз радасці* |
| *без волі* | *бяз волі* |

2. Спішыце словы, падкрэсліце націскны склад, пастаўце патрэбныя літары.

*Снег — сн . гі, сн . жынка, сн. гавік*
*Цёплы — ц . пло, пац . плела, ц. плыня*
*Светлы — св . тло, св . тлець, св . тлаваты*
*Цёмны — ц . мней, ц . мнець, ц . мнаваты*
*Звер — зв . ры, зв . рок, зв . раваты*
*Вецер — в . тры, в . трык, в . траны (млын), в . трак*
*Вёдры — в . дро, в . дзерца*

3. Спішыце тэкст, падкрэсліце ў словах тыя літары, правапіс якіх вы можаце растлумачыць.

### Вясновы дзень

Дзень быў ясны, цёплы. Снегу ўжо зусім не было на палях. Ажылі балоты. Жалобна застагналі кнігаўкі. Высока ў небе звінелі жаўранкі. Зямля пачала іскрыцца зялёным аксамітам кволай пахучай травы.

Там і сям на ўскраінах лясоў распускаліся маладыя лісточкі бярэзінак. Жоўтыя каткі звісалі на вербалозінах. Зялёныя лісціцы павыбіваліся ўжо на свет скрозь сухія галінкі. Прынадныя пахі разлівала ў паветры маладая чаромха.

Адны толькі паважныя дубы не вельмі спяшаліся расчыніць свае покаўкі і выпускаць адтуль свежую зелень. Дуб — мудрае дрэва. Не паддаецца ён на зман няпэўнай у пачатку вясны цеплыні.

Паводле Якуба КОЛАСА.

## Развіццё гутарковай мовы

### Сад

*Фрукты — садавіна*
*яблоня — яблыня*
*яблоко — яблык (м. р.)*
*груша — груша*
*вишня — вішня*
*черешня — чарэшня*
*слива — сліва*
*рябина — арабіна*
*смородина — парэчкі*
*крыжовник — агрэст*
*малина — маліна*
*клубника — клубніцы, трускалкі*
*земляника — суніцы*

* * *

*дерево — дрэва*
*корень — карань*
*ствол — ствол*
*крона — крона, карона*
*ветвь — галіна*
*ветка — галінка*
*лист — ліст*
*почка — пупышка, покаўка*
*цветок — кветка*
*быть в цвету — цвісці*
*цветение — цвіценне*
*спелый — спелы*
*саженец — саджанец*
*саженцевые деревья — саджанцы, флянсы*
*отросток — парастак*
*прищепить — прышчапіць*
*прищепок — прышчэпак*
*садоводство — садоўніцтва*
*садовод — садоўнік*

**Прачытайце і запомніце загадкі. Загадайце іх сваім знаёмым.**

Сярод лесу дзяжа кісне, хто ідзе — кіем свісне. (Яблыня.)

Румяны Піліп да палкі прыліп. (Яблык.)

Чырвонае цельца, каменнае сэрца, вінная на смак, а завецца як? (Вішня.)

На градзе агонь ірдзее,
Не пячэцца і не грэе.
Ён пахучы і прыгожы,
Нават дождж заліць не можа.
І з такіх агнёў-праменяў
Вараць смачнае варэнне.
(Клубніцы.)

Чырвоная шапачка, белая галоўка. (Маліна.)



# Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

*Рубрыку вядзе*
***Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

Сярэдзіна XVIII стагоддзя — пачатак сапраўднага росквіту нямецкай нацыянальнай паэзіі. Сярод першых яе зорак гэтай эпохі былі Фрыдрых Готліб Клопштак (1724—1803), выдатны майстар белага верша, і аўтар шмат якіх шэдэўраў баладнага жанру Готфрыд Аўгуст Бюргер (1747—1794).

***Фрыдрых Готліб КЛОПШТАК***

## Да яе

Час, вястун радасцяў найлепшых,
Жаданы і блізкі час, каб убачыць
Цябе ў далячыні, праліў я
Слёз несуцешных зашмат.

І ўсё ж ты прыходзіш! Цябе анёлы
Тыя шлюць да мяне, што былі й любілі,
Як я; і любоўю несмяротных
Любяць яны і цяпер.

І на крылах спакою, з ранняга неба,
Светлага роснага дня, што ўсміхаецца ўверсе,
З вечнай вясной сыходзіш,
Долу сыходзіш ты.

Бо яна адчувае, нясе захапленне
У сэрцы й дўшы: іх запаўняе —
Як падумае, п'яная ад кахання,
Што гэтак любяць яе.

***Готфрыд Аўгуст БЮРГЕР***

## Сон беднай Зусхен

Мне мой жаніх з'явіўся ў сне —
Каля паўночы было.
Клянуся, тады падалося мне,
Што ззяе навокал святло...

Пярсцёнак ён заручальны разбіў —
Ах! — зняўшы з пальца свайго,
Кара́лі з пярлінаў мне падарыў
Пасля, ўзамен за яго.

А потым, а потым я выйшла ў садок —
Як мірт мой расце, паглядзець,
Які даглядала, каб шлюбны вянок
Зрабіць і на голаў надзець.

Кара́лі раптам парваліся — ўміг
Пярліны ўсе зніклі дзесь
У сыпкім пяску — ды так, што іх
Шукай ты хоць дзень увесь.

Я іх шукала — дарма, дарма!
Нідзе не знайшла тых пярлін.
Зірнула — аж мірту майго няма,
А цёмны расце размарын.

Даўно ўсё збылося — ах, доля мая! —
Што прывід прынёс начны.
Ні ў сонніка больш не пытаюся я,
Ні ў тых, хто тлумачыць сны.

О сэрца! Які з майго плачу плён —
Па лёсе пярсцёнка й пярлін?
У сне зверставаны мне хуткі скон:
Дзе мірт быў, расце размарын.

О сэрца! Ў кароне смерці стае
Ужо размарыну ды траў;
Аплаканы ўсе пярліны твае,
Пярсцёнак, пярсцёнак прапаў!

**Пераклад з нямецкай**
**Лявона Баршчэўскага.**

## *Мама, пачытай!*

***Рыгор БАРАДУЛІН***

ЗАГАДКІ НА ГРАДКАХ

От бабуля важна села
І глядзіць навокал смела.
У зямлю схавала лапаць.
Як зачэпіш — будзеш плакаць.
Гэта злосная бабуля
Называецца... (цыбуля).



З вусамі,
А не стары.
Зайздросныя вочы.
За што-небудзь на двары
Учапіцца хоча.
Хопіць хітрасці на трох,
Ну, на тое ж ён... (гарох).



Не сыдзе з месца
Ні на крок,
Зарыўшыся ў пярыну.
Цярэбіць ціхі вецярок
Ягоную чупрыну.
А возьмуць за чупрыну
Ды выцягнуць з пярыны —
Пачырванее, нібы рак.
Вядома, хто гэта... (бурак).



***Васіль ВІТКА***

КОЦЯ І КАЦЯ

Плача коця на кухні.
Ад слёз вочкі папухлі.
— Што з табою, мой каток,
Забалеў мо жываток?
— Мяў! — сказаў варкоцік.—
Не баліць жывоцік.
У мяне душа баліць —
Як цяпер на свеце жыць,
Як мне жыць у хаце,
Калі хлусіць Каця:
Смятану злізала —
На мяне сказала.



***Сергей НОВІК-ПЯЮН***

ВЕРАБЕЙЧЫКІ

На марознае акно
Падаюць сняжынкі.
Я збіраю са стала
Хлеба акрушынкі.
Для крылатых пеюноў
Снеданне рыхтую,
Верабейчыкаў-сяброў
Чым магу частую.
І спяваюць у вакне
Шэрыя клубочкі.
Пацяшаюць сэрца мне
Ад рана да ночкі.



***Уладзімір СКАРЫНКІН***

**СЯДЗЯЦЬ КАРОВЫ**

У гарачы летні дзень
На крайку дубровы
Леглі адпачыць у цень
Млявыя каровы.
Песня ластавак, зязюль
Над зямлёй лілася.
Першы раз, відаць, рагуль
Бачыў хлопчык Вася.
Крыкнуў як мага грамчэй
Зух пяцігадовы:
— Мама! Мама! Глянь хутчэй —
Вунь сядзяць каровы!



***Алег БЕМБЕЛЬ***

# З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—45).*

Англичане: читают — по-старому, говорят — по-новому... Так что вот где диверсия против роднай мовы...

Потому что вышли труды Сталина по языковедению... Язык, в котором возможен произвол,— это ненаучно. Вкусовщина в языкознании — то же, что вкусовщина в политике...

Если поэт лямантуе пра мову, вообще — рассыпает эмоциональные глупости — ему это можно простить. Но учёный должен подходить к делу серьёзно...

**(Каля 30 год, спецыяліст па метадалогіі навукі, беларус)**

**— Па-першае,** наконт агульнай мовы.

Такая спроба ўжо была у неапазітывістаў. Вітгенштэйн, часткова — Расэл... Нават для людзей навукі, занятых у адной вузкай сферы дзейнасці, яны не здолелі стварыць такую адзіную мову. Што ж тады казаць пра агульную мову для ўсяго чалавецтва?..

Ідэя неажыццявімая. Гэта навукова даказана і нашай і замежнай крытыкай неапазітывістаў.

«Мовазнаўцы, гісторыкі», пра якіх гаворыць Барадулін... У іх тут элементарнае няведанне некаторых філасофскіх момантаў. Адсюль і скараспелыя вывады — пра «сціранне граняў»...

Мо не кожная нацыянальная мова з аднолькавай практычнай эфектыўнасцю можа быць мовай сучаснай навукі. Але самая дасканалая універсальная мова ў жыцці — гэта родная мова.

Уражанне... Алаіза Цётка, яна змыкаецца з Купалам і з Багушэвічам, удакладніла Багушэвіча «Не пакідайце роднай мовы, каб не ўмёрлі»: для с в а й г о народа. Мо яна трошкі дакладней выказала думку Багушэвіча...

— Памрэ духоўна?..

— Чалавек духоўна мо і не саўсім памрэ... Ён памрэ для свайго народа...

— Як беларус — ён памрэ і для сябе самога...

— ...Аб моладзі, аб яе вялікай павіннасці... Гэта **другая дэталь,** на якой я спыню ўвагу.

На мой погляд, гэта павінны рабіць людзі з чыстымі рукамі. У якім сэнсе?.. Людзі высокай культуры, у якіх гэта прайшло праз усведамленне, што беларуская культура — неад'емная частка сусветнай культуры, у якіх гэта стала арганічнай патрэбай, а не толькі сродкам зарабляць на кавалак хлеба...

Гэта зробяць высокакультурныя людзі. Яны не будуць шарахацца ў крайнасці нацыяналізму... не будуць распыляць... заквашваць свой інтэлект на нацыянальным эгаізме... Яны будуць выступаць з пазіцый агульначалавечай культуры. І гэта дасць ім магчымасць найбольш поўна ацаніць беларускую культуру, яе месца і значэнне, неабходнасць яе далейшага развіцця...

**І трэцяе,** на што трэба звярнуць увагу.

Беларуская мова і літаратура...

Літаратура найбольш поўна ўвасабляе нацыянальную мову... ў найбольш дасканалай форме... Беларуская ж літаратура мае багатыя традыцыі...

Думка Гілевіча і палымяныя радкі Танка даказваюць, што, нягледзячы на ўсе хістанні — і тэарэтычныя і жыццёвыя, — развіваць далей родную мову — справа і неабходная, і пачэсная, і перспектыўная...

У любым выпадку гэтая справа будзе працягвацца...

Уражанне наконт агульнай мовы ў мяне не на першым месцы. На першым — другое і трэцяе... Адбілася прафесійная вывучка...

**(42 гады, беларус, настаўнік з Койданаўшчыны)**

...Мова — чысціцелька душы. Яна — святая засцярога ад здрады... Мова — міранка... Яна не ваяўнічая... Яна не абараняе сябе... Яе мусім абараняць мы...

**(35 гадоў, беларус, журналіст)**

Мова звязвае нас у адно, паміж сабою, і звязвае сабою — абавязвае. Мы пазнаём адзін аднаго па мове.

Яна тое вонкавае, што стала ўнутраным.

Ад яе нельга адмовіцца; як ад вопраткі. Хто адмаўляецца — той адымаецца, і ніхто старонні не пакажа яму дарогі дамоў.

Зойдзеш у мінскую краму, скажаш па-беларуску, а прадавачкі здзівяцца: адкуль вы? Неадпаведнасць заўважаюць. Адпаведна было б, каб ты гаварыў незаўважна — як усе або выглядаў па-іншаму: як дзед вясковы.

Дарэчы, не ўяўляю гарадскіх дзядоў, у горадзе — пенсіянеры.

І тады ты адказваеш: з Беларусі...

Наша мова — гэта боская далонь, якая не дае нам згубіцца ў сусвеце.

Унутраная радзіма.

Беларусь — ужо таксама ўнутраная радзіма.

Мова ні ад каго не адмаўляецца — адмаўляюцца ад яе. Яна нішто не траціць — трацяцца ад яе.

Беларусь — краіна небасхілаў: сонца на захадзе і сонца на ўсходзе.

На захадзе і на ўсходзе беларуская мова: ужо скончылася і яшчэ не настала.

Так доўга ты настаеш, так доўга ты адыходзіш, мова: прысмакам страты насычана стагоддзе.

Але страта мае пераджыцца дарэшты. Усход магчымы пасля гэтага, уваскрошанне — пасля гэтага.

Далонь Бога ля майго чала.

**(50 гадоў, беларус, літаратуразнаўца і крытык)**

...Гавару на роднай мове ў сям'і. Усе члены сям'і таксама гавораць дома па-беларуску. Гэта не ўстаноўка, а даўняя звычка. Гавару па-беларуску на працы, у асяроддзі калег. На вуліцы, у тралейбусе з калегамі таксама размаўляю па-беларуску. З незнаёмымі загаварваю па-руску. Думаю, што пачынаць размову з незнаёмым па-беларуску не культурна, асабліва ў Мінску: чалавек можа не ведаць мовы. У кампаніі, дзе размаўляюць па-руску, таксама падтрымліваю размову па-руску. На тэмы навукова-тэарэтычныя часта гавару па-руску, бо большасць тэарэтычнай літаратуры чытаю на рускай мове.

*(Працяг будзе).*

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—45).*

— Маргарэт,— сказаў стары,— ты будзеш адзявацца ці не?

— Не,— амаль выкрыкнула яна.— Паслухай мяне, тата: я нічога не дадам да таго, што ўжо сказала. Альбо ты пойдзеш і забярэш з сабою гэтых людзей, альбо загадаеш ім вынесці мяне адсюль гвалтам і будзеш шкадаваць аб гэтым усё сваё жыццё. Ты мяне ведаеш. Я падыму на ногі ўвесь дом...

Шчокі ў старога ажно надзьмуваліся ад шалу.

— Чакаю цябе заўтра ўранку,— сказаў ён і пайшоў да дзвярэй, але ўжо каля іх павярнуўся:

— Можна напрасіць цябе не расказваць пра гэтую гісторыю нікому, пакуль мы не пагаворым? — сказаў ён.

— Добра, тата.

Ён выйшаў. Яна ўскочыла, надзела халат і выбегла з пакоя. Я нічога не разумеў... Я ўстаў, сабраў сваю адзежу, прайшоў у ванную і, зачыніўшыся, пачаў адзявацца так хутка, як мог, клянучы сябе за тое, што ўвязаўся ў гэтую гісторыю, і раптам пачуў стук у дзверы.

— Ты тут? — спыталася яна.

— Тут.

— Усё нармальна. Яны пайшлі.

Я ўзяў адзежу, якую яшчэ не надзеў на сябе, і адчыніў дзверы. Маргарэт засмяялася: на мне былі толькі кашуля, кальсоны і шкарпэткі.

— Куды ты так спяшаешся? — спыталася яна.

— Я выходжу.

— Мы пойдзем удваіх.

— Нам і так пашанцавала. Хопіць жартаваць з удачаю.

— Мы жартавалі з ёю толькі аднойчы: калі ты раптам сказаў, каб я пайшла з бацькам. Усё магло ляснуцца!

— Усё, што я хацеў, гэта выбрацца адсюль без сваркі. Я не думаў, што ён саступіць.

— А я гэта ведала,— сказала яна.— Павер мне, я ведаю яго, як свае пяць пальцаў...

— Цяпер я гэта бачу...

— Добра, я буду адзявацца. Паедзем адразу ж.

— Паедзем? Куды? — Яна ўжо пачынала даставаць мяне.

— Жаніцца. Я сказала бацьку, што мы ажаніліся, ты памятаеш?

— Выдатна памятаю. Цудоўная ідэя прыйшла табе ў галаву: ты проста ўратавала нас абаіх.

— А зараз трэба гэта зрабіць.

— Што — зрабіць?

— Ажаніцца.

Я гдядзеў на яе ашаломлены. Яна гаварыла сур'ёзна! Яна і праўда збіралася выйсці за мяне замуж.

— Ты яшчэ гаворыш пра нейкую жаніцьбу! Усё, што я хачу, гэта выбрацца адсюль. Я люблю бываць за горадам. Я проста жудасна люблю бываць за горадам. І ніколі больш не буду наракаць на брудную адзежу.

— А што будзе са мною, калі я прыйду да бацькі без майго мужа?

— Гэта ўжо твая справа. У цябе багата часу падумаць. А паколькі ты думаеш хутка, то яго ў цябе нашмат больш, чым табе трэба, каб прыняць рашэнне.

— Трэба абавязкова жаніцца,— настойвала яна.— Інакш ён будзе лічыць мяне шлюхай, што кладзецца ў ложак з любым мужчынам, які ёй натрапіцца. А гэтага ён ужо не даруе мне ніколі. Ніколі!

— Даруе ён табе ці не даруе, гэта ўжо не мой клопат.

— Гэта стане тваім клопатам, калі я скажу яму, што ты спакусіў мяне ў час прагулкі, паабяцаўшы жаніцца са мною, а потым перадумаў і кінуў. Тады ты зразумееш, што гэта нашмат горш, чым ажаніцца са мною, асабліва, калі ты збіраешся заставацца ў гэтым горадзе.

Я засмяяўся сам сабе: чаго іншага можна было чакаць?.. «Кадзілак», «Талбот» нічога не мяняюць — усё заўсёды аднолькава, і ў бедных, і ў багатых: калі ліс у пастцы, яго трэба браць...

— Я веру табе,— сказаў я.— Я прадбачу, якім можа стацца маё жыццё ў гэтым горадзе, калі мною займецца твой бацька...

Значыцца, яна трымае мяне пад каўпаком: альбо жаніцьба, альбо яе бацька сатрэ мяне ў парашок. Ад думкі, што зноў прыйдзецца ратавацца, ажно пад лыжачкай зассала... *Навошта табе корпацца ў гэтых старых-старых успамінах, ажыўляць гэтыя прывіды мінуўшчыны, казытаць свае распаленыя нервы...* Ну што?.. Узяў на кручок тутэйшых выжлаў — і зараз вымушаны з'язджаць адсюль... Вядома, будуць іншыя гарады, будуць у іх свае выжлы, якіх ты зможаш узяць на кручок, варта адно знайсці добрую прынаду. Вось што галоўнае — знайсці добрую прынаду. І зноў, і зноў... Калі ўдалося аднойчы, удасца яшчэ... Ты малады, усё жыццё наперадзе. І ўжо на золку ты можаш рушыць у Арызону.

— Але навошта наклікаць на сябе ягоны шал? — распачала Маргарэт.— Жаніцьба здыме ўсе праблемы і для цябе, і для мяне, і для бацькі. Ён будзе лічыць, што гэта вар'яцкі, зняцку, шлюб паміж хлопчыкам і дзяўчынкаю, што мы былі тым часам крыху нападпітку,— але ў гэтым няма нічога амаральнага; гэта ўсяго толькі памылка, і ён яе даруе. Ён скасуе жаніцьбу — вось і ўсё.

— Скасуе? — паўтарыў я.

Яна ўгледзелася ў мяне.

— Вядома. Яму будзе вельмі лёгка гэта зрабіць. І не думай, што ты будзеш змушаны жыць са мною. Зусім не. Бацька можа скасаваць гэты шлюб адным узмахам рукі. І табе гэта будзе выгодна. Мой бацька багаты. Вельмі багаты. Ты зможаш купіць сабе ўсё, што захочаш... Табе ж патрэбныя грошы?

Пра скасаванне шлюбу ў мяне і думкі не мільганула. Ідэя зарабіць грошы такім чынам мне яшчэ ў галаву не прыйшла...

— І ў мяне ёсць невялічкі капітал. Невялічкі, але...

— Невялічкі?.. Гэта колькі?

— Тысяч дзесяць. Плюс дваццаць пяць тысяч бацькі...

— Трыццаць пяць тысяч...

— Ты думаеш, у цябе кожны вечар будзе такая магчымасць?

— А далёка да таго месца, дзе ты мусіш выйсці замуж?

Яна прыкусіла вусны:

— За сто кіламетраў.

— Адзявайся,— сказаў я.

V

Мандан узняў вочы на пасведчанне аб шлюбе, акуратна склаў яго і аддаў мне.

— Чаму вы не даверыліся мне ў гэтай справе? Я ж ваш адвакат, ці ж не так? Чаму вы не праканcультаваліся ў мяне?

— Кансультавацца з нагоды чаго? Я толькі што сказаў вам: усё, што я хацеў, гэта выбрацца адтуль і пазбавіцца ад яе. Найхутчэйшым спосабам было ажаніцца з ёю.

— Дык вось: вашая спешка каштавала вам шэсцьдзесят пяць тысяч долараў. Шэсцьдзесят пяць тысяч долараў — вось што вы згубілі. Я мог бы атрымаць за гэты дакумент сто тысяч. А вы атрымалі трыццаць пяць. Трыццаць пяць,васпане!..

— А я не буду нават браць іх, гэтыя трыццаць пяць.

— Як? — не зразумеў Мандан.

— Я сказаў, што не вазьму нават гэтыя трыццаць пяць штук. Ён можа скасаваць гэты шлюб, калі захоча...

— Скасаваць шлюб?

— Але, за так. Я не вазьму ў яго аніводнага цэнта.

— Перастаньце смяяцца з мяне.

— А я і не смяюся з вас. Я гавару сур'ёзна. Я не вазьму ў яго аніводнага цэнта. І лічу, што мне яшчэ страшэнна пашанцавала, што я так лёгка выблытаўся з гэтай гісторыі...

— Так лёгка? — здзівіўся ён. Ад злосці ў яго ажно твар пабарвавеў.— Божа, што за крэціна я бачу перад сабою! Што за лухту чую! Ды вы хоць разумееце, хто такі Эзра Добсан? У яго мільёны... Ну і ну... Людзі пражываюць жыццё, пільнуючы такі фарт, а тут вам ён падае з неба — з неба, разумееце,— і вы адмаўляецеся ад яго. Ды гэта ж багацце на ўсё жыццё! А трыццаць пяць тысяч для яго — кішэнныя расходы...

— Так і я сам падумаў адразу,— абсек я яго.— Фарт... Я ламаў галаву ўсю ноч, усю дарогу туды і назад. Падумайце столькі ж, і вы зразумееце, што не такі ўжо гэта і фарт. Добсан залішне важны гуз, каб я нападаў на яго — вось і ўсё.

— Я вам кажу, што ён раскашэліцца,— сказаў Мандан.

— А потым? Гісторыя ж на гэтым не закончыцца. Вы што, думаеце, што такі тып, як ён, даруе нейкаму бадзягу, што ён яго аблапошыў? Ён нацкуе на мяне сваіх выжлаў, і мне зноў прыйдзецца змывацца. Я ратаваўся ўсё сваё жыццё. Я ўжо ўдосталь наспаўся ў балотах, напіўся бруднай вады, начысціў зубы пальцам, накорпаўся ў кантэйнерах адходаў, каб не здохнуць з голаду. Я не хачу, каб маё сэрца болей сціскалася пры выглядзе кожнага ганчака. Нічога не зробіш, дружа, я сыты па горла гэтым існаваннем. Я проста махну на гэтую справу рукою, не падымаючы шуму, і, паўтараю, не вазьму ў яго аніводнага цэнта...

— Уваходзьце, пан Мэрфі,— суха сказаў натарыус.— Пан Добсан і яго дачка будуць тут зараз. Вы курыце?

Ён працягнуў мне цыгарэту.

— Дзякуй,— сказаў я і ўзяў цыгарэту.

Толькі я прыкурыў, як адчыніліся дзверы і ў кабінет увайшлі Эзра Добсан і Маргарэт.

Выраз твару ў старога Добсана быў цвёрды, суровы. На ім быў шэры касцюм і блакітны гальштук-матылёк. Маргарэт была ў англійскім касцюме і спартыўных чаравіках.

— Дзень добры, Поль! — паглядзела яна на мяне.

Бацька не сказаў ні слова.

— Дзень добры,— сказаў я, стараючыся заставацца спакойным. Вельмі хутка ўсё будзе закончана, паўтараў я сам сабе, *прывіды юнацтва будуць нарэшце пахаваныя, і ты станеш свабодным...*

— Калі я правільна зразумеў, пан Мэрфі,— пачаў натарыус, — вы не супраць таго, каб ваш шлюб быў скасаваны?

— Не.

— І вы... гм... вы можаце паклясціся, што вы і панна Добсан не жылі разам як муж і жонка?

Я кінуў позірк на Маргарэт. Яна глядзела мне ў вочы, не пазбягаючы майго погляду.

— Магу,— адказаў я.

Натарыус крануў званочак. Расчыніліся другія дзверы, і ў кабінет увайшла важнага выгляду сакратарка з нейкай штукаю ў руцэ.

— Падпішыце, калі ласка, вось гэта,— сказаў натарыус і працягнуў мне нейкую паперу і ручку.

— Вось тут,— паказаў ён мне пальцам месца.

Я распісаўся. Сакратарка паклала на стол тое, што прынесла, і я ўбачыў, што гэта пячатка.

— А зараз вы, панна Добсан,— сказаў натарыус.

Яна падышла да стала і таксама падпісала паперу. Натарыус падсунуў паперу сакратарцы, яна паставіла пячатку і таксама распісалася. Нарэшце натарыус узяў са стала чэк і працягнуў яго мне.

— Я мяркую, што гэта адпаведная сума,— сказаў ён.

Гэта быў асабісты чэк Эзры Добсана на трыццаць пяць тысяч долараў.

Затым натарыус даў мне яшчэ адну паперу.

— Гэта адмова,— растлумачыў ён.— У ёй вы заяўляеце, што з сённяшняга дня адмаўляецеся канчаткова ад якіх-небудзь прэтэнзій на маёмасць і капітал пана Эзры Добсана і панны Маргарэт Добсан. Прачытаць вам яе?

— Не трэба,— адказаў я.

— Закон патрабуе, каб вы дэталёва азнаёміліся са зместам гэтага акта, перад тым як падпісаць яго.

Я павярнуўся да Эзры Добсана. Ад намагання заставацца ўвесь гэты час спакойным у яго ажно твар пацямнеў. Маргарэт была абсалютна спакойная.

— Я падпішу яго,— сказаў я, узяў ручку і распісаўся.— Больш нічога не трэба падпісваць?

— Нічога, гэта ўсё,— сказаў натарыус.

Я паклаў чэк на стол і павярнуўся да старога Добсана.

— Я не хачу гэтых грошай, пан Добсан,— сказаў я.— Мне вельмі шкада, што ў нас з Маргарэт так здарылася. Мы сапраўды паводзілі сябе вельмі неабдумана і па-дзіцячы. Я вельмі засмучаны гэтым — думаю, як і Маргарэт. Бывайце, пан Добсан, бывай, Маргарэт...

Я дастаў з кішэні пасведчанне аб шлюбе, паклаў яго на чэк і выйшаў з кабінета.

**ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ**

I

Першы з трох быў крыху меншы, двое другіх — сярэдняга росту і мажнасці. Яны выйшлі з салона прыгажосці, меншы з валізкаю ў руцэ, селі ў чорны «Б'юік», прыпаркаваны непадалёк, за пяць дамоў ад салона. Меншы сеў побач з шафёрам, двое другіх — ззаду, і машына паехала ўніз па вуліцы.

Гэта паўтаралася некалькі разоў у розных частках горада — каля тытунёвай крамы, закусачнай, яшчэ чатырох салонаў прыгажосці: трое ўваходзілі ў памяшканне, а праз нейкі час выходзілі, і ў меншага ў руцэ была валізка. Мяняўся толькі яе колер — яна была то чорная, то карычневая. Цяпер у іх было ўжо сем валізак.

Седзячы ў машыне Мандана, прыпаркаванай у канцы вуліцы, мы пачакалі, пакуль «Б'юік» праедзе праз скрыжаванне, і скрануліся з месца ўслед за імі.

— Мы ўжо дзве гадзіны сядзім у іх на хвасце,— незадаволена прабурчэў Джынкс, націскаючы на педаль.— Пазабаўляемся яшчэ так крыху і засвецімся, вось паглядзіце...

— Ты чуў, што казаў Мандан? — адказаў я.— Яны робяць гэта гадамі, на іх ніколі не рабілі ніякіх нападаў, і яны сталі сляпымі і неахайнымі. Ні на што не зважаюць. І нічога не ўбачаць, нават калі мы сядзем ім на буфер.

— Сем валізак, набітых бабкамі,— прашаптаў Мандан.

— Колькі іх там, па-вашаму?

— Добры кавалак... Ромэр прымае стаўкі на ўсіх скачках...

— Сума якая?

— Цяжка сказаць... Можа, пятнаццаць штук, можа, пяцьдзесят. Гэта адзіны букмекер у горадзе, яму ўдалося звесці ўсіх канкурэнтаў, і даўжнікоў у яго багата...

— Вы таксама вінныя яму? — спытаўся я.— Колькі?

— Ані цэнта.

*(Працяг будзе).*

